ЦАНА 10 ГРОШАЙ.

# СЕЛЯНІН

АДНАДНЁЎКА

Радыкальнай Сялянскай Партыі Заходняй Беларусі.

Вільня Дня 15 студзеня 1928 года.

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Людвісарская 2, кв. 3.



## Вітайця!

У цікавых, але і адказных хвілінах часу паклікалі Вас, Брацьця, на Зьезд. Пакінулі штодзенныя хатнія заботы. На гэты заклік аграмадна прыбылі да сталіцы нашага краю—Вільні, каб разам у грамадзе радзіць аб выбарах, аб палепшаньні цяжкага жыцьця Вашых сем'яў.

Вітаем Вас з цэлага сэрца! Хоць прыехалі з разных бакоў нашае старонкі, розьніцы між нам ня будзе. Усіх нас лучыць адзінакавая нядоля, адзінакавая цяжкая праца і клопаты. Усе мы ёсьціка з аднэй мужыцкай сям'і.

Многа з Вас езьдзіла на розныя зьезды. Усе памятаеце папярэднія выбары ў Сойм. Паварот Ваш да хаты цікава чаканы Вашымі суседзямі. Здадзіцё ім справаздачу, што ўрадзілі.

Падумайце над чым маем радзіць. Да галавы ціснуцца ўсе крыўды, цэлая бяда нашых вёсак, цяжар падаткаў, курныя зямлянкі, заместа хатаў, брак зямлі для вырастаючых дзяцей і многа, многа іншых крыўдаў і справаў.

З грудзей усіх вырываецца крык „цяжка нам". Так, Браце, цяжка жыць, аб гэтым усе ведаем. Направіць нашую долю можам толькі ўласнымі сіламі, ўласнаю працаю. Да гэтакай працы надыйшоў час. Маім выбіраць сваіх паслоў у Сойм. Усе прыгатаўляюцца да гэтых выбараў Натварылася мноства розных партыяў. І мужыкі мусяць аб гэтым падумаць.

Падумайце! Цяжар бяды як молат гняце нашыя мазгі, дык да нарадаў прыступім з павагаю. Выслухаем спакойна прамоваў. Просім каб запісываліся да ўзяцьця голасу. Гаварыце як хто можа і ўмее. Проста па сялянску, бо да братоў сялян словы Вашыя трапяць.

Апрача крыўдаў нашых будзем гаварыць з кім маем пайсьці на выбары. Гэта найважнейшая справа, бо выбары мусім выйграць. Сялянскіх паслоў, але такіх, якія-б у Сойме нас баранілі, якія-б адважна змагаліся за лепшую будучыну нашай вёскі — выбраць мусім. Гаворачы аб гэтым памяркуйце, якія партыі на вёсцы ўважаюць за прыяцеляў, а каго за ворагаў. Памяркуйце, што мелі мы рожныя партыі, і як гэтыя партыі за Вашыя справы змагаліся.

Распазнаўшы і зазнаёміўшыся з усімі, зможам пастанавіць тое, што будзе для нас найлепшае, а выбарную дарогу выбярам такую, якой інтарэсы сялянства патрэбуюць.

Будуць сярод Вас і такія, што старацца

будуць у працы нашай перашкаджаць, хоць падавацца будуць за прыяцеляў Вашых. Будуць гэта ваўкі ў авечай скуры.

Ня дайцеся ім ашукаць. На спробы разьбіцьця адкажыце развагай і спакоем. Ворагі нашыя мусяць навучыцца, што дэлегатам вёскі ў працы, дзеля якой зьехаліся, перашкаджаць ня можна.

Няхай на зьездзе пастановяць, якой працай стварыць сялянскую сілу, якая-б давяла нас да лепшае будучыні·

Вось на што склікалі Вас, а сягоньня вітаем у Вільні.

б. пасол *Антон Шапель.*

# ВЫБАРЫ.

Па землях нашых разышоўся гук, а гэта выклікала разьвязаньне Сойму. Як па загаду ўсе вёскі былі закіданы дармовымі газэтамі і адозвамі. Усе кандыдаты на паслоў разаслалі сваіх агітатараў. Усе ўважаюць на быўшыя выбары. Глупыя. Думаюць, што вёскі дадуцца ім вадзіць сябе за нос. Думаю, што вёскі нашыя за пяць гадоў нічога ня навучыліся. Ня гэтак лёгка цяпер. Селянін слухаець, але маўчыць. Гора і абецанкі навучылі яго шмат. На выбары пойдзем, але будзем выбіраць людзей сваіх моцных, адважных. Як у вялікай раце, узбураная вада шукаець і ваюець з запорамі, так і на вёсках нашых гудзіць смутная думка. Усе нас ашукалі, усе дбаюць толькі аб сабе, а галасы сялянскія патрэбныя ім толькі для здабыцьця кар'еры. Мы маем сваіх людзей, каторым верым. Ёсьць гэта людзі мяйсцовыя, знаныя ў барацьбе за права сялян і іх у Сойм выбярэм. Усе іншыя проч.

Выбары ў нас могуць выграць толькі тыя, якія прыйдуць з выразнай праграмай. Што скажуць нам праўду, хаця-бы яна горкай для нас была. Цярпець навучыліся. Усе найлепшыя праграмы, абкручаныя ў салодкія абяцанкі, спаткаюцца ў нас з пагардай.

Здаём сабе справаздачу, што барацьба ў будучым Сойме цяжкая.

Рэакцыя добра зразумела, што сіла ўсьведамленьня сялянскага расьце, Што дзень стаёмся для буржуазіі грознейшымі. Баяцца, што правы, якія здабылі, затрымаем, а нават здабудзем новыя. Дзеля гэтага, з адной стараны народ працуючы будзе ваяваць, а павялічэньне правоў, а буржуазыя, а адарваньне нават гэтых, якія здабытыя.

Чаго-ж яны хочаць?

Найбольш небяспечным аружжам людзей працы ёсьць роўнае права галасаваньня. На гэтае права скіраваны ёсьць найвялікшы атак буржуазіі.

З гэтай цельлю ў новым Сойме правіца будзе дамагацца а зьмену Канстытуцыі. Канстытуцыя ізноў-жа ёсьць права якім кіруе жыццё ўсіх грамадзян у Польшчы. Для буржуазіі хочыцца зьмяніць Канстытуцыю, каб сялян і работнікаў уціскаць, каб адабраць ім нават права барацьбы за свае правы. Калі-бы гэта ім удалося. Згінець нават праект аб рэформе рольнай згінець усё тое аб чым гэтыя, што хочуць жыць думкамі.

Узрасьце бедната — зазьяюць блескам і распустным жыццём палацы. У гэтакіх варунках барацьба нашых паслоў ёсьць адпаведная і цяжкая.

У былым Сойме колькі страніцтваў вяло барацьбу абапёртую на торгу з правіцай. У гэтым Сойме таргавацца ня можна будзе.

Над гэтым мусім застанавіцца і ўважаць, якія партыі ў нас агітуюць.

Да гэтага часу відзім агітатараў Вызваленьня, Польскай Партыі Социалістычнай (П. П. С.). Народных меншасьцяў даўней шаснастка на чале з беларускім кс. Ад. Станкевічам і жыдамі Выгодзкім.

## Няхай жыве тэрыторыяльная аўтаномія!

## Не дамося ашукацца на выбарах!

## Жадеам дрэва на адбудаваньне зьнішчаных хатаў!

# Чаго хочам.

Сяляне мусяць стварыць вялікую арганізацыю сялянскую, стварыць сілу якая пераможа.

Але ў якое імя ідэі мусіць лучыцца Народ сялянскі. Гэтай ідэяй есьць „Праца“.

Праца — кіруе сьветам!

З арганізаваная праца дасьць сьвету новы ўклад жыцьця пры каторым шчэзьне вызыск, капітал і крывавая вайна.

Есьць гэта вялікая і цяжкая праца, каторую ўдасца стварыць толькі супольнымі сіламі сялян і работнікаў.

Чалавек ахвярны, чалавек ідэі можа шмат чаго зрабіць і шмат чаго мець. Народ павінен лучыцца ў адну грамаду.

Радыкальная Партыя Сялян Заходняй Беларусі такую іменна працу падняла.

Партыя наша ўзываець у рады ўсіх тых, якія хочаць стаць пад нашым сьцягам, на ім мы выпісалі Катэхізм! Катэхізму гэтага мусяць усе сяляне навучыцца.

Вось што ён гаворыць:

Сярод мас сялянскіх жывець ідэя змаганьня за зямлю, за ўладу, за асьвету, за вольнасьць палітычную для Народу працоўнага. Каля гэтай ідэі гуртуюцца сяляне, твораць сілу, якая ўзрастаець. Але і заусёды ёсьць разбіваная. Заўсёды ўдараець у яе лагер капіталістычна — абшарніцкі. Ад кожнага такога ўдару слабыя адступаюць — упадаюць на духу. Паміма гэтага сялянін і работнік ня маець часу бязнадзеіцца, няможна яму сумлевацца ў апошнім змаганьні.

Кожны шаг павінен нас толькі загартаваць, да яшчэ сільнейшай барацьбы. Мусім толькі пільнаваць каб на кіруючае месца партыі выбіраць чыстых, шчырых баяўнікоў, зьвязаных з сялянскім жыцьцём. Толькі такія людзі могуць нас давясьці да вызваленьня мас сялянсыіх з ярма, вызыску дарогай моцнай барацьбы.

Найгалаўнейшымі нашымі праграмнымі пастулятамі ёсьць:

Стаім на грунце Незалежнай Дзяржавы Польскай і гэтую засаду стасуем да іншых народаў.

1) Уся веда для кляс працуючых.

Хто маець кіраваць гаспадарствам. Ці капіталісты і абшарнікі, каторых ёсьць горстачка. Ці тыя, каторых жывець у гаспадарстве, мільёны — масы працуючыя.

Фундамантам працоўнай клясы зьяўляецца Саюз сялян і работнікаў.

2) Земля абшарнікаў павінна перайсьці бяз выкупу ў рукі працоўных. Справядлівы падзел усей зямлі абшарнікаў, кляштарнай, (манастырскай) царкоўнай і касьцельнай паміж сялян і дворскіх парабкоў.

Зямля толькі для тых, кто на ёй працуе.

Вайсковае асадніцтва павінна быць зліквідавана, дзеля таго, што яно зьяўляецца гвалтам палітычным, дакананым для цэляў дэнацыяналізацыі і падняволеньня сялянства.

3) Нацыяналізацыя ўсіх лясоў. Дрэва па ніскіх цэнах для сялян на будулец і тапліва (апал).

4) Аўтаномія для ўсходніх земель.

5) Асьвета для народу бязплатная ў роднай мове.

Перабудова школьнага строю ў кірунку запэўненьня моладзі клясы працуючай даступу ў вышэйшыя школы.

6) Вольнасьць слова, друку, зборак, свабода мысьлі, рэлігіі і перакананьняў.

7) Выберальнасьць судзьдзяў, выберальнасьць на станавішча адміністрацыйнае. Зьнясеньня кары сьмерці і судоў палявых. Амнэстыя для вязьняў палітычных.

8) Аддзяленьне касьцёла ад гаспадарства. Зьнясеньне Конкордату.

9) Зьмена сыстэмы падаткавай у кірунку перакіду ўсіх цяжараў на клясу пасядаючую, пакуль гэта кляса ня будзець зьнесяна.

Арганізуючы сялян да гэтай барацьбы а павышшые цэлі, мусім у першым раду скіраваць цэлы высілак на нашыя землі дзе пануюць яшчэ вынятковыя правы. Прыгнечаны народ Беларускі, Украінскі, Літоўскі мусіць арганізавацца ў адну грамаду.

Мусім злучыць усе сілы сялянства Літоўска-Беларускіх земляў; сілы гэтыя бязустанна разьбіваець шавінізм, зашчэпляны праз рэакцыйныя партыі і сацыяльнае ўгоды.

Разумеем, што кайданы ўціску зможам пры супольнай дапамозе працоўных масаў Польшчы, дзеля гэтага выцягіваем братэрскую руку супрацоўніцтва да Братоў нашых сялян Польшчы.

Зарганізавана гэтай дарогай сялянская сіла, маючы аднолькавыя мэты, мусіць злучыцца ў адзін магутны сялянскі саюз.

Вось да гэтага і імкнецца Радыкальная Сялянская Партыя Заходняй Беларусі.

Заклікае яна ўсіх сялян Нашага краю ў свае рады.

# Выбарныя весткі.

## Вольнасьць сходаў і ахрана выбараў у сьвеце абавязуючага права.

У сучасным пэрыядзе перадвыбарным вельмі важным ёсьць арыентацыя, як праўныя нормы забясьпячаюць вольнасьць сходаў перадвыбарных, а так-жа самаправядзеньне выбараў.

Апошні Сойм ня скончыў працы над новым праектам уставы аб сходах, дзеля чаго абавязуець цяпер устава з дня 5 жніўня 1922 г. (Dz. Ust. poz. Nr. 66 poz. 594, 1922 r.) „W sprawie wolności zgromadzeń przedwyborczych“. Устава гэтая ёсьць вельмі зьвязлая: налічвае аж 7 артыкулаў.

У артыкуле першым праклямуецца засада, што ўсялякія сходы ў выбарным часе **не вымагаюць пазваленьня адміністрацыйнага.** У далейшых артыкулах устава дзеліць выбарныя сходы на дзьве катэгорыі: а) адбываныя на дарогах і публічных пляцах, б) у памешканьнях замкнутых. Гэтыя апошнія не вымагаюць абсалютна ніякіх фармальнасьцяў, затое сходы пад адкрытым небам павінны быць заяўлены ў адміністрацыйнае ўлады на 24 гадзіны перад іх пачаткам.

Санкцыяў, у выпадку незаяўленьня, устава не прадбачыць аніякіх.

У справе ахраны самых выбараў, абавязуець дэкрэт Начальніка Дзяржавы „Аб карных пастановах за праціўдзеяньне выбарам да Сойму і выкананьне пасольскіх абавязкаў“ з дня 8.I. 1919 году (Dz. Pr. p. p. Nr 5). Дэкрэт гэты, каторы пературываў ужо парлямэнтарныя выбары ў 1919 г. і 1922 годзе, адзначаецца зьвязласьцю і яснасьцю. З пасярод 10-ці артыкулаў, становячых уласнасьць дэкрэту, 7 адносяцца да ахраны выбарных дзеяньняў, а 3 датычаць праціўдзеяньня ў выкананьні пасольскіх абавязкаў. Дэкрэт устанаўлівае праступкі ў адносінах хронолёгічных да выбарнай акцыі, дык вось, першым праступкам, караным вастрогам, ёсьць перашкода выбіральніку пры помачы гвалту, пагрозы ці надужываньня ўлады ў урэчывістненьні права вольнага выбару ў Сойм.

На падставе гэтэга артыкулу караны можа быць вастрогам працадаўца, каторы ўнемажлівяець сваім працаўнікам спраўджаньня, ці ёсьць упісаны ў сьпісак выбіральнікаў, дзякуючы чаму працаўнік той утраціў права галасаваньня.

Калі ўрадавец на службе дапусьціцца таго самага праступства, у такім выпадку, апрача кары, можа быць звольнены з урадаваньня. Нароўні, што да санкцыі, трактуець правадаўца (арт. 2) праступства падбураньня да праціўдзеяньня выбарам: ходзіць тут аб дзеяньне, скіраванае да назначанай лічбы асобаў, напр. аб ужываньні на сходах да нішчаньня памешканьняў выбарных камісій і г. п.

Цікавым фактычным станам праступства ёсьць прадажнасьць пры галасаваньні. Тут гразіць кара вастрогу за накланеньне выбіральніка пры помачы пачастунку, дару, абяцаньня асабістае карысьці, або падступу да галасаваньня на карысьць накланяючага, або ўсказанай праз яго асобы. З вышэйшага вынікае, што запросіны кагось да цукерні для скааптаваньня яго голасу—ёсьць праступствам, прычым трэба падкрэсьліць, што, згодна дэкрэту, кары вастрогу заслугоўвае да аднаго году—як накланяючы да галасаваньня ў вышэй апісаны спосаб дык і выбіральнік згаджаючыся на пачастунак або дар, адпаведна галасаваць.

Наступны артыкул устанаўляе кару да 3 гадоў вастрогу за перашкаджаньні акцыям выбарным камісіям. Тут трэба заўважыць, што сябры выбарных камісіяў, згодна ардынацыі, зьяўляюцца, у часе ўрадаваньня пад ахранаю права, прыслугуючага ўрадоўцам, ці практычна бяручы справу, абраза сябры камісіі ў яе памешканьні, караны ёсьць таксама моцна, як абраза ўрадніка на службе. Дэкрэт як-бы прадбачыць кару за гвалт на асобе сябры камісіі, каральную пагрозу, подступ або ўшкоджаньне памешканьня камісіі, або штучнае запечышчаньне ў ім паветра.

Калі ходзіць аб праступства выбіральніка, то дэкрэт караець арыштам увяцьце ўдзелу ў выбарах з сьвядомасьцю, што ня мае на гэта права. Нароўні з вышэйшым трактуецца многакратнае адданьне голасу праз таго самага выбіральніка, або галасаваньнем па-за сваім абводам.

Сябры выбарных камісіяў наражаны на кару да 3-х гадоў вастрогу, за надужываньня пры прыйманьню або аблічаньню галасоў.

Нарэсьце караецца да 6-ці гадоў вастрогу, схаваньне, папсаваньне, сфалшаваньне лістаў, пратаколаў, або іншых дакумэнтаў, датычачых выбараў. Усіліваньне ў гэтым напрамку ёсьць таксама каранае. З артыкулу 7-га вынікаець, што прадметам праступства могуць быць ня толькі сябры выбарнае Камісіі, але кожная пастаронньняя асоба, маючая доступ да ўспомненых дакумэнтаў.

Так прадстаўляюцца ў кароткіх рысах законы права, ахраняючыя вольнасьць сходаў і выбарнай акцыі. **А. С. П.**

## Сваркі ў блёку меншасьцяў.

У блёку меншасьцяў на тэрыторыі ўсходніх зямель ня дзеіцца найлепей. Паміма доўгіх дыскусіяў і нарадаў раз па разу паўстаюць непаразуменьні як паміж паасобнымі меншасьцямі ўхадзячымі ў склад блёку, як паміж тых самых меншасьцяў. Перадусім трэба падкрэсьліць вялікае разыходжаньне паміж групай жыдоўскай блёку меншасьцяў а Літвінамі і Беларусамі. Выбарную акцыю беларускую, кіраваную праз б. пасла Ярэміча, паводле праекту мелі фінансаваць жыды. Першае a conto праўдападобна ўжо выплачана. Але жыды зьяўляюцца людзьмі інтарэсу. Дык пакуль заплацяць наступную рату зажадалі заілюстраваньня беларускіх сілаў, жадаючы даведацца які рэзультат дасьць акцыя праз іх фінансаваная. З гэтай мэтай склікаў Ярэміч штосьці у родзе Зьезду, які адбыўся 28 сьнежня пр. г. На Зьездзе быў прысутны б. п. Выгодзкі.

Ацэна сілаў выпала праўдападобна для Ярэміча уемна і жыды з далейшай выплатай грошай устрымліваюцца.

Адсюль квасы і непаразуменьні. Апрача гэтага квэстыя ўкладаньня лісты кандыдатаў насуваець многа труднасьцяў. Пасярод жыдоўскіх арганізацыяў на гэтым грунце вядуцца сваркі, каторыя ў рэзультаце спраўляюць, што лік малькантэнтаў расьце, бо ня спосаб ёсьць заспакоіць асьпірацыі ўсіх груп.

## Р. Н. О. укладаець лісту кандыдатаў.

У Берасьці адбываюцца цяпер нарады Галоўнай Рады Р. Н. О. (Рускага Народнага Аб'яднаньня) пасьвячаныя справам укладаньня лістаў кандыдатаў. Справа гэтая выклікаець многа непаразуменьняў сярод Галоўнае Рады. На лісты Р.Н.О. будуць выстаўлены на першых мейсцах наступныя прозьвішчы:

б. пас. Сэрэбрэнікова, п. Емельянова і Бутурліна.

Рэдактар і Выдавец АНТОНІ ШАПЕЛЬ. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня.